# Бацькаўшчына



**ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Die Administration: München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III

Druck. „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a

**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 40 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг. Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Падпіска на год — з разьліку 52 нумароў, на паўгода — 26 нумароў, на 3 месяцы 13 нумароў паводле вышэйшае цаны. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна

**ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.**

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“

№ 3 (185) — Нядзеля 17 студзеня 1954 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 8


# Перад Бэрлінскай канфэрэнцыяй

У цэнтры ўвагі публічнай апініі Захаду знаходзіцца сяньня Бэрлінская канфэрэнцыя чатырох міністраў замежных справаў, якая распачнецца 25 студзеня сёлета. Гэтай канфэрэнцыі прыдаецца асаблівае значэньне не таму, што яна зможа пры пэўных умовах прывесьці да сусьветнага адпружаньня й разьвязаньня некаторых важных праблемаў, што гэтае напружаньне ўзмоцнілі. У такі вынік канфэрэнцыі ня верыць ня толькі Амэрыка й Вялікабрытанія, але навет і ў Францыі, дзе пераканаearьні, што з Саветамі яшчэ можна будзе знайсьці супольную мову, былі наймацнейшыя, надзеі на ўдачу Бэрлінскай канфэрэнцыі што раз слабеюць.

Дык ня ў гэтым уся прычына прыпісваньня асаблівай вагі да Бэрлінскай канфэрэнцыі, а ў тым, што яна можа стацца важным зваротным пунктам у разьвіцьці далейшых дачыненьняў між Захадам і Ўсходам. Шмат што паказвае на тое, што Амэрыка, а часткова й Вялікабрытанія разглядаюць гэтую канфэрэнцыю, як апошнюю маніфэстацыю сваей добрай волі, як **апошнюю** спробу дагаварыцца з Савецкім Саюзам. Пры гэтым дагаварыцца, не здаючы сваіх галоўных пазыцыяў, якімі зьяўляюцца: урэгуляваньне праблемы Нямеччыны, разбудова Атлянтычнага пакту і рэалізацыя эўрапэйскай абароннай супольнасьці.

Што такую пазыцыю займе Амэрыка й Вялікабрытанія, можна судзіць зь некаторых важных палітычных ходаў гэтых дзяржаваў, што папярэдзілі Бэрлінскую канфэрэнцыю й з гледзішча на яе былі зробленыя. У першую чаргу тут трэба прыпомніць пастановы канфэрэнцыі на Бэрмудах. Ня гледзячы на тое, што ў сувязі з раптоўнай згодай Саветаў адбыць Бэрлінскую канфэрэнцыю бязь ніякіх вяжучых наперад перадумоваў пастаўленая перад канфэрэнцыяй на Бэрмудах мэта — мабілізацыя ўсіх сілаў Захаду на змаганьне з камунізмам — ня была дасягнутая, тым ня меней была ўзгодненая пазыцыя заходніх дзяржаваў, якую яны зоймуць у Бэрліне. У камунікаце Бэрмудзкай канфэрэнцыі сказана выразна, што заходнія дзяржавы ўважаюць за галоўную мэту сваей палітыкі задзіночаньне Нямеччыны шляхам правядзеньня ў ёй свабодных выбараў, разбудову Атлянтычнага пакту і прысьпяшэньне рэалізацыі эўрапэйскай арміі. З гэтай пазыцыі ў Бэрліне яны ўжо зыйсьці ня змогуць.

Пацьверджаньнем гэтага было асьветчаньне амэрыканскага міністра замежных справаў Дальлеса ў Парыжы 15 сьнежаня, што ў выпадку калі Францыя будзе й надалей адцягваць ратыфікацыю дагавору аб эўрапэйскай арміі, дык Амэрыка будзе змушаная правесьці грунтоўную рэвізію сваей вонкавай палітыкі, якая для Эўропы будзе мець трагічныя вынікі. Ён заявіў, што Эўропа можа пакончыць самагубствам, калі гэтага жадае, але без Амэрыкі, і што Амэрыка трэйці раз ня будзе ратаваць Эўропы. Праўда, нічога новага гэтая заява фактычна не зьмяшчала. Такое папярэджаньне пад адрасам Эўропы выказвала Амэрыка ўжо ня раз, ды і брытанскі прэм'ер Чэрчыль выказваў такі-ж самы пагляд на апошнім кангрэсе кансэрватыўнай партыі ў Маргэйт. Але ультыматыўная форма й нязвычайна войстры тон заявы Дальлеса, як і тое, што была яна зроблена амаль напярэдадні Бэрлінскай канфэрэнцыі мае сваю вымову. Гэта паказвае, што ў Бэрліне Амэрыка ўжо болей не скапітутулюе, а будзе гаварыць з пазыцыі сілы.

Але з другога боку Захад таксама даў да зразуменьня, што ён гатовы зрабіць усё для яго магчымае, каб у Бэрліне дасягнуць разьвязаньне найбольш спрэчных пытаньняў. Таму яшчэ нядаўна, калі ўжо сталася ведамым, што канфэрэнцыя чатырох усё-ж такі адбудзецца, Вашынгтон паўтарыў сваю згоду даць Маскве гарантыі бясьпечнасьці, але пад умовай, што апошняя згодзіцца на задзіночаньне Нямеччыны.

Найважнейшым палітычным козырам Амэрыкі, якім яна зайграла перад Бэрлінскай канфэрэнцыяй, была прамова прэзыдэнта Айзэнгаўэра, сказаная перад пленумам Задзіночаных Нацыяў 8 сьнежаня, на другі дзень пасьля заканчэньня Бэрмудзкай канфэрэнцыі й зь ейнымі ўдзельнікамі ўзгодненая. Высоўваючы праект стварэньня міжнароднай установы дзеля выкарыстаньня атамнай энэргіі для мірных мэтаў і заклікаючы Савецкі Саюз прыступіць да гэтага пляну, Айзэнгаўэр заманіфэставаў добрую волю й мірныя намеры Амэрыкі, якая, як ён адцеміў, маючы незраўнаную перавагу запасаў і прадукцыйных магчымасьцяў атамнага аружжа, згаджаецца ў будучыні вялікую часьць прадукаванай ёю атамнай энэргіі аддаць для павышэньня дабрабыту ўсяго чалавецтва. Абедзьве гэтыя амэрыканскія заявы, як і пастановы Бэрмудскай канфэрэнцыі не пакідаюць ніякіх сумляваньняў, што англясаскі Захад у Бэрліне выкажа максімум міралюбнасьці й добрай волі ў дачыненьні да Саветаў, але сваіх пазыцыяў ня здасьць.

Ня менш ад Захаду прыгатаўляецца да Бэрлінскай канфэрэнцыі й Савецкі Саюз. Таксама можна ўжо прадбачыць, якую будзе ён старацца заняць на ёй пазыцыю і якімі зайграе козырамі. Зусім ясна, што мэты Савецкага Саюзу, да якіх ён будзе імкнуцца ў Бэрліне, зьяўляюцца адваротныя да мэтаў Захаду: нэўтралізацыя Нямеччыны, спараліжаваньне Атлянтычнага пакту й недапушчэньне да паўстаньня эўрапэйскай арміі, ну, і пасварэньне заходніх дзяржаваў.

Якую форму задзіночаньня Нямеччыны будуць прапанаваць Саветы, сяньня ўжо ведама. У ваднэй з сваіх ранейшых нотаў да заходніх дзяржаваў Крэмль высунуў наступную форму разьвязаньня нямецкае праблемы: спачатку з заходнянямецкага ўраду й усходнянямецкага ўраду меў-бы быць створаны агульнанямецкі ўрад і такім-жа спосабам агульнанямецкі парлямант із спалучэньня двух — заходняга і ўсходняга нямецкіх парлямантаў. Потым гэты агульнанямецкі часовы ўрад правёў-бы агульнанямецкія выбары, пасьля чаго быў-бы створаны сталы нямецкі ўрад, зь якім быў-бы падпісаны мірны дагавор. Ясна, што калі навет такія выбары, праведзеныя агульнанямецкім урадам, спалучаным з урадаў усходняй і заходняй Нямеччыны, і не далі-б бальшыні камуністым, дык і так гэткая «задзіночаная» Нямеччына, на чале якой, побач з антыкамуністычнымі палітыкамі, стаялі-б і надалей маскоўскія агенты тыпу Піка, Гротэволя й Ульбрыха, была-б вырваная з пад уплываў Захаду і ў найменшым выпадку была-б зьнэўтралізаванай. Пасьля падпісаньня з такой Нямеччынай мірнага дагавору, акупацыйныя дзяржавы мусілі-б забраць зь ейнае тэрыторыі свае збройныя сілы. Але ў той час, калі Саветы патрабавалі-б адцягнуць свае войскі толькі на пару сот кілямэтраў, на левы бераг Одры й Найсы, Амэрыка й Вялікабрытанія былі-б змушаныя вывесьці свае войскі наагул з Эўрапы. Ясна, што на такое разьвязаньне нямецкае праблемы Захад ня пойдзе. А Саветы таксама ня згодзяцца на пляны Захаду, паводля якіх задзіночаньне Нямеччыны павінна быць праведзенае толькі шляхам свабодных выбараў, праведзеных на ўсей нямецкай тэрыторыі пад міжнароднай кантроляй.

Хаця Масква згадзілася на адбыцьцё Бэрлінскай канфэрэнцыі бязь ніякіх перадумоваў, якія ўзалежнівалі-б ейнае склíканьне, тым ня меней у сваей апош-

**(Заканчэньне на 2-ой балоне)**

# Канфэрэнцыя у справе вызваленьня

У Вашынгтоне 4 і 5 сьнежня 1953 г. адбывалася «Нацыянальная канфэрэнцыя ў справе свабоды й міру цераз вызваленьне», якая мела на мэце прадыскутаваць справу палітыкі вызваленьня народаў, што знаходзяцца за зялезнай заслонай. Гэткая-ж канфэрэнцыя адбылася і ў лютым мінулага году ў Вашынгтоне на тэму «Стратэгія псыхалягічнай вайны».

Ініцыятарамі й арганізатарамі абедзьвюх канфэрэнцыяў былі кангрэсмэны Чарльс Кэрстэн і О. К. Армстронг, а таксама Э. М. О'Конар — былы ўраднік Вашынгтонскай ДП-Камісіі. Апрача гэтага, у канфэрэнцыі прынялі ўдзел некалькі дзесяткаў іншых амэрыканскіх палітыкаў ды шмат прадстаўнікоў паняволеных бальшавізмам народаў. Канфэрэнцыя выклікала належнае зацікаўленьне сярод амэрыканскай грамадзкасьці, а амэрыканская прэса памясьціла аб ёй свае справаздачы.

На канфэрэнцыі быў прысутным, як госьць, прэзыдэнт Рады БНР М. Абрамчык, а ад Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў ЗША (БАЗА) прыймалі ў ёй актыўны ўдзел сп. В. Жызьнеўская і сп. П. Манькоўскі. Першая ўваходзіла ў дарадчую камісію Цэнтральнага Бюра, на чале якога стаяў кангрэсмэн Армстронг, а другі выступаў ў агульных дыскусіях канфэрэнцыі на нацыянальныя тэмы.

Канфэрэнцыя мінулага году праходзіла пад вялікай дамінацыяй расейскай імпэрыялістычна-фашыстаўскай групы з НТС, а адзін зь лідэраў гэтае арганізацыі Балдыраў выступаў навет з праграмовым рэфэратам. Цяпер-жа сытуацыя зусім зьмянілася. Балдыраў быў высялены з ЗША, — гавораць, што ў сувязі з шпіёнскай афэрай Мюльлера, а энтэсаўцы наагул, у сувязі таксама з выкрыцьцём гэтае афэры ў цэнтры іхнае арганізацыі, ужо не маглі быць панамі палажэньня. Іхная дэлегацыя абмежавалася да дзесяцёх чалавек, тады калі ў мінулым годзе было іх больш сотні. Таму заядлымі абароньнікамі расейскай імпэрыялістычнай пазыцыі выступалі ня столькі самі Расейцы, колькі ведамы амэрыканскі русафіл, былы старшыня Амэрыканскага Камітэту сп. Ляёнс. У сваіх выступленьнях ён намагаўся запярэчыць існаваньне як савецкага, гэтак і наагул расейскага імпэрыялізму, даводзячы, што справа паняволеных народаў зьяўляецца зусім няістотнай. Але ягоная пазыцыя ў выступленьнях як Амэрыканцаў, гэтак і прадстаўнікоў паняволеных народаў была разьбітая.

Наагул вялізарная бальшыня амэрыканскіх удзельнікаў канфэрэнцыі выказала свае сымпатыі і зразуменьне да нацыянальна-вызвольнага змаганьня нерасейскіх народаў, бачучы ў гэтым змаганьні найвастрэйшую зброю супраць бальшавізму. З гэтага гледзішча на асаблівую заслугоўваў увагу рэфэрат кангрэсмэна Файна із штату Огайё на тэму **«Чатыры сілы свабоды».** Ён адцеміў, што расейскаму камунізму трэба проціўставіць вышэйшыя ідэі, большую станоўчасьць і актыўнасьць ды абапёрціся ў змаганьні зь ім на такіх фактарах, як рэлігія, шляхотны нацыяналізм, вольная праца й прыватнае прадпрыемства.

«Шляхотны нацыяналізм — гэта сіла, што дзеіць ужо сотні гадоў» — заявіў кангрэсмэн Файн. Гэты нацыяналізм памылкова зьмешваюць з агрэсыўным нацыяналізмам фашыстаўскага тыпу. У савецкай імпэрыі дзеюць два тыпы нацыяналізму: агрэсыўны расейскі нацыяналізм, або, як яго называюць, савецкі патрыятызм, і шляхотны нацыяналізм, рэпрэзэнтаваны нерасейскімі народамі, якія жадаюць вызваліцца з савецкай турмы народаў. Гэты нацыяналізм дзеіць у Польшчы, Чэхіі, Славаччыне, Мадзяршчыне, Эстоніі, Латвіі, Летуве, Беларусі, Украіне, Грузіі, Армэніі і сярод іншых нерасейскіх народаў. Гэты нацыяналізм можа стацца Ахілесавай пятой імпэрыі і яго — паводля пераканьня кангрэсмэна Файна — трэба падтрымліваць, бо гэта ляжыць у сфэры традыцыяў Амэрыкі.

Напасьледак канфэрэнцыя прыняла рэзалюцыю, у васнову якой была паложаная амэрыканская Дэклярацыя незалежнасьці. «Канцэпцыя вызваленьня ўключае ў сябе самавызначэньне й свабоду для кажнай нацыі на зямлі бяз выключэньня, як гэта зацемлена ў Атлянтыцкай карце, і ня гледзячы на існуючыя дзяржавы» — гаворыць пункт дзесяты рэзалюцыі. Іншыя пункты рэзалюцыі заклікаюць урад ЗША дапамагчы паняволеным народам у іхным вызваленьні маральна й матар'яльна, вымагаюць ад ураду ЗША ратыфікаваць канвэнцыю аб народаўбійстве, вызнаюць права дэпартаваным народам і нацыянальным групам на паварот на бацькаўшчыну й поўную рэгабілітацыю й інш.

Зь вялікім задаваленьнем астаецца падчыркнуць, што апошняя «Нацыянальная канфэрэнцыя ў справе свабоды й міру цераз вызваленьне» была наступным паважным крокам у эвалюцыі амэрыканскага грамадзянства ў кірунку зразуменьня нацыянальна-вызвольных імкненьняў нерасейскіх народаў і іхнае першараднае ролі ў змаганьні з бальшавізмам. Як такая, канфэрэнцыя гэтая адначасна паказала поўны правал адзінанедзялімаўскай канцэпцыі расейскае імпэрыялістычнае рэакцыі й ейных амэрыканскіх прыслужнікаў.

**Р. С.**

# Пакажам сьвету запраўднага Купалу

## ДА ВЫДАНЬНЯ ВЯЛІКАГА ЗБОРНІКА ТВОРАЎ ЯНКІ КУПАЛЫ

**Кажны народ мае свае вялікія нацыянальныя вартасьці, сваіх найвялікшых людзей і іхную творчасьць, зь якой чэрпае нязьнішчальныя жыцьцёвыя сілы, на якіх узгадоўваюцца цэлыя пакаленьні й якімі ён гордзіцца перад сьветам. Адным з такіх вялікіх Беларусаў зьяўляецца Янка Купала, нацыянальны прарок і волат беларускага мастацкага слова. У сваіх натхнёных творах ён, — як ніхто перад ім і пасьля яго — адкрыў вочы беларускага народу на ўвесь трагізм ягонага паднявольнага жыцьця, заклікаў яго ськінуць ланцугі няволі і, паказаўшы шлях да вызваленьня, падняў яго на вялікае змаганьне за сваю будучыню — вольную й незалежную Беларусь. А як мастак беларускага слова, Купала першы стварыў моцныя асновы новае беларускае літаратуры, узьняў яе на недасягальную перад ім вышыню і зраўняў яе з мастацкай літаратурай іншых народаў. Для беларускага народу Купала з аднаго боку зьяўляецца прарокам нацыянальнага адраджэньня й вызваленьня, а з другога — найбольш рэпрэзэнтацыйным прадстаўніком нашага нацыянальнага літаратурнага мастацтва. Ягоныя творы належаць да тых, што чытаюцца й перачытваюцца бесьперапынку, заўсёды выклікаюць найглыбейшыя пачуцьці й незацёртыя перажываньні, заўсёды ўзбройваюць магутнай сілай вытрываньня й нязломнай верай у перамогу.**

**Тымчасам Купала для нашае эміграцыі становіцца што раз меней ведамым. Старэйшае пакаленьне, што ведала Купалу на бацькаўшчыне амаль напамяць, ня маючы тут выдадзеных ягоных твораў, пачынае аб ім забывацца, а маладое пакаленьне, што вырасла на чужыне, паза малой колькасьцю Купалавых твораў, перадрукоўваных у часапісах пры розных нагодах, фактычна ведае аб ім толькі зь ягонага імя. Пераважна зь імя толькі ведае аб Купале й заходні культурны сьвет, бо найвялікшы волат нашага паэтыцкага слова сяньня даступны яму толькі ў дробных і некамплетных выданьнях, прыпадкова папаўшых у некаторыя бібліятэкі Захаду, пры гэтым у выданьнях, засьмечаных бальшавіцкімі прадмовамі, што хвальшуюць праўду аб нашым нацыянальным гэнію.**

**Дык пакажам сьвету нашага запраўднага вялікага Купалу, пакажам н а г л я д н а, а не славамі толькі, а ў васобе Купалы й цераз ягоную творчасьць пакажам яму тое, што беларускі народ мае найлепшае й найвартасьнейшае й з чаго запраўды мае поўнае права быць гордым. Пабачыўшы й пазнаўшы веліч нашага нацыянальнага гэнія, сьвет гэтым самым вялікшым і сільнейшым пабачыць наш народ і нашую эміграцыю.**

**Іншыя народы маюць адпаведныя выданьні сваіх найвялікшых волатаў духа й майстроў мастацкага слова, якія дэманструюць перад чужынцамі, як свае найвялікшыя нацыянальныя дасягненьні. Украінцы маюць такія выданьні Шэўчэнкі, Палякі — Міцкевіча, Расейцы — Пушкіна і г. д. Мы-ж маем Купалу, які, аднак, дагэтуль у поўнай сваей веліччы ня быў сьвету даступны.**

**Дзеля гэтага Выдавецтва «Бацькаўшчыны», веручы ў поўнае падтрыманьне нашага эміграцыйнага грамадзянства, ужо прыступіла да вялікага й адказнага заданьня — прыгожага выданьня вялікага тому найлепшых і найбольш характэрных для паэты твораў Янкі Купалы. Прыгатаваны спэцыяльнай камісіяй Беларускага Інстытуту Літаратуры й Мастацтва ў Нью Ёрку том выбраных твораў Купалы, які выдаецца цяпер фарматам вялікае васьмёркі разьмерам больш чымся 500 балонаў друку, ужо ад двух месяцаў друкуецца і будзе гатовым у першых днях сакавіка сёлета. З боку вонкавага гэтае выданьне будзе адказваць усім вымаганьням заходняэўрапэйскае друкарскае тэхнікі, а з гледзішча падбору твораў зборнік будзе зьмяшчаць усё найвартасьнейшае з Купалавай літаратурнай спадчыны. З гэтага гледзішча зборнік пакажа нам у васнаўным у с я г о Купалу. Гэта будзе зборнік, якога, як з гледзішча сабраных у ім усіх найлепшых твораў Купалы, гэтак і з гледзішча на ягонае тэхнічнае афармленьне, у нас ня было яшчэ навет на бацькаўшчыне.**

**Аб архітэктоніцы й агульным зьмесьце зборніка, як і аб ягонай цане ды ўмовах выпіскі, паінфармуем у наступных нумарох нашае газэты. Тут толькі адцемім, што выданьне такога вялікага, салíднага й рэпрэзэнтацыйнага тому твораў Купалы — гэта басспрэчна вялікая падзея ў жыцьці нашае эміграцыі. Для кажнага нашага суродзіча, закінутага лёсам на далёкую чужыну, творы Купалы перанясуць яго ў думках у дарагую бацькаўшчыну, будуць яму пацехай і крыніцай сілы ў ягоным цяжкім эміграцыйным жыцьці. Таму зборнік Купалаўскіх твораў павінен стацца настольнай кнігай кажнага Беларуса на чужыне. І таму Выдавецтва «Бацькаўшчыы» чакае ад нашых суродзічаў, што яны, усе бяз выключэньня купляючы й згары падпісваючыся на Купалаўскі зборнік, належна спрычыняцца да ягонага выданьня, як і да ягонага пашырэньня сярод сваіх і чужых.**

**Выдавецтва «Бацькаўшчыны»**

# Да праблемы беларускага казацтва

(Заканчэньне з папярэдняга нумару)

Што-ж сталася ў вакупаванай Украінцамі часьці Беларусі? Дзесь пад Магілевам да прызначанага Хмяльніцкім на акупаваную часьц Беларусі тымчасовага казацькага Залатарэнкі прыехаў беларускі шляхціч Кастанцін Паклонскі разам із трыма іншымі шляхцічамі і чатырма мяшчанамі. Залатарэнка ськіваваў іх да Масквы, скуль зьвярнуўшыся 7 верасьня 1654 г. К. Паклонскі аовесьціў сябе беларускім палкоўнікам і пачаў арганізаваць беларускае казацтва. Вось із гэтага часу, паводля аўтара артыкулу, Беларусы з пад украінскае акупацыі, не азіраючыся на Вялікае Княства Літоўскае, а нат як-бы ставячыся да яго варожа, няпрыхільна, а прынамся як да гаспадарства ім чужога, прабуюць у сваёй мясцовасьці арганізаваць новае беларускае гаспадарства спачатку васальнае да Масквы, а калі гэта не ўдалося з прычыны маскоўскага становішча, дык васальнае да васальнае да Масквы Украіны.

Паглядзім, ці такі пагляд пацьвярджаецца фактамі, прыводжанымі самым аўтарам артыкулу. Спачатку Паклонскі сустрэў пераказу ў сваей дзейнасьці з боку Залатарэнкі, каторы хацеў зь Беларусаў арганізаваць украінскае казацтва, зн. казакоў залежных ад украінскае ўлады. Жалаба на Залатарэнку маскоўскаму ўраду памагла на толькі, што Поклонскаму дазволена было арганізаваць беларускіх казакоў адно ў межах Магілеўскага павету, а на іншай часьці ўкраінскае акупацыі меў рабіць гэта Залатарэнка пасвойму. Гэта магло быць недаверам Масквы да Паклонскага. «Паклонскі, кажа аўтар, не дзяржыць гэтых межаў. Спасярод ягонага палку мы сустракаем сотні Чэрыкаўскую, Прапойскую, Мозырскую, што сьветча пра даволі шырокую тэрыторыю, занятую ягоным казацтвам» (бал. 45). «У сьнежню 1654 г. (зн. за якія два з палавінаю-тры месяцы) ягоны полк налічвае ўжо чатыры тысячы чалавек, на той час — гэта не малая колькасьць..., і ў лютым 1655 г. сталася неспадзяваная Маскве справа: з ладнай часьцяй свайго крывіцкага палка Паклонскі перайшоў на бок войска Вялікага Княства Літоўскага» (бал. 45).

Зь якою-ж мэтаю пачынаў сваю дзейнасьць Паклонскі? Тут можа быць адно з двух: або зьняверыўшыся ў перамогу незалежнае Беларусі, зн. Вял. Кн. Літоўскага, над Масквою й Украінаю, але бязь безахвоцьця да яго, ён пастанавіў ратаваць тое, што ўважаў магчымым, ды, хоць васальнае, але ўсё-ж такі мець сваё беларускае гаспадарства, а пасьлей, пераканаўшыся, што справа незалежнае Беларусі ня безнадзейная, перайшоў із сваім палком на бок ейнага войска; або з самага пачатку дзеіў, каб з часам, зарганізаваўшы некаторыя вайсковыя сілы, адначасна або й разам з войскам незалежнае Беларусі ваяваць з акупантамі.

Просьле пераходу Паклонскага да войска незалежнае Беларусі, па якімсь часе, тым беларускім казаком, што яшчэ засталіся ў вакупаванай Украінцамі часьці Беларусі, цар загадаў належыць да ўкраінскага войска. Відавочна, Масква Беларусам ня верыла. Спачатку палкоўнікам гэных беларускіх казакоў быў нейкі Мацьвей Старынскі, а з 1656 г. Хмяльніцкі прыслаў Івана Нечая. Але гэты арганізуе не ўкраінскіх казакоў зь Беларусаў, як гэта хацеў рабіць Залатарэнка, але беларускіх, ды што гэтыя казакі і тэрыторыя імі занятая, тварылі, як гэта пераконуюча даводзіць аўтар, самастойную гаспадарстваваю адзінку, васальна залежную ад украінскага гэтмана. Відавочна, не ўдалося Залатарэнку тварыць украінскіх казакоў зь Беларусаў, і Хмяльніцкі мусіў пайсьці на ўступкі. Масква абярняся ставіла дамаганьне, што «казакам на Белой Руси не быть», але яны гэтае забароны ня слухаюць і арганізуюцца й пашыраюцца далей а далей; было іх шаснаццаць тэрытарыяльных адзінак на шырокай тэрыторыі Беларусі (46 бал.). З войскам незалежнае Беларусі, адылі, яны не ваююць.

А ў гэтым самым часе, як праф. Акіншэвічу ўдалося знайсьці ў дакумэнтах Архіву міністэрства справядлівасьці і заграгічных справаў у Маскве, па ўсёй Беларусі, акупаванай маскоўскім войскам, пашырыўся партызанцкі супраць-маскоўскі рух. «Ёсьць шмат матар'ялаў пра казакоў, — кажа аўтар — у Рослаўшчыне, Імсьціслаўшчыне, Смаленшчыне й Віцебшчыне. У густых барох Смаленшчыны й Віцебшчыны сядзела шмат аддзелаў крывіцкага казацтва. Маскоўскія людзі іх звалі «шишами» («шиш» у тагачаснай мове расейскай значыла лесавы разбойнік). Але гэта, ведама, былі не разбойнікі, а род, калі хочаце, партызанаў, што ўзьняліся супроць маскоўскіх войскаў». «Шмат дадзеных пра дзейнасьць гэтых казацкіх аддзелаў ёсьць пра тэрыторыю Віленшчыны (там казацтва асабліва дзеіла ў павеце Ашмянскім) і Меншчыны. Меншчына гэтымі гадамі ўся была занятая казацкімі аддзеламі крывіцкіх казацкіх чалаўнікоў — Тахвіля Бабровіча, Міндзьвілы, Мурашкі. Крычма крычаць рэляцыі маскоўскіх стралцоў пра тое, што «казаки белорусские, государь, нас, ратных людей твоих, побивают».

І ў гэтым самым часе вялася палітычна-дыпляматычная акцыя, што прывяла да Гадзяцкае ўмовы 1658 г., паводля каторае Ўкраіна станавілася трэйцім раўнапраўным гаспадарствам у канфэдэрацыйным задзіночаньню Літвы (Беларусі) й Польшчы. Хто быў ініцыятарам і галоўным дзейнікам у гэтай акцыі? Найлягчэй маглі быць імі тыя, каторыя былі да яе прыгатаваўшыся псыхалёгічна й палітычна. Таковымі былі Беларусы. Беларусы ня толькі нічога ня трацілі ад такое камбінацыі, але здабывалі падвойна: не давалі ўзмоцніцца Маскве і аслаблялі свайго партнэра — Польшчу. Украінцы, праўда, таксама здабывалі, але ім цяжка было псыхічна зьмяніцца зь няпрыяцеляў у хаўрусьнікаў Польшчы, асабліва, калі мець наўвеце разагітаваную супроць Польшчы казацкую, палітычна нявырабленую, масу. Дыкжэ гэта найлягчэй магло стацца тады, калі наступнікам Хмяльніцкага стаўся «Іван Выгоўскі, што сам паходзіў зь недалёкае ад Крывіччыны Валыні, а жонку меў Крывічанку із шляхоцкага роду Стацкевічыху (45 бал.)» «і быў моцна зьвязаны з Крывіччынай» (46 бал.). Бліжэй азначым паходжаньне Выгоўскага, калі дадамо, што, як падаў Л. Акіншэвіч у сваім артыкуле «Беларускае Казацтва», друкаваным у «Полымі» VI, 1929, бал. 176, «Выгоўскія былі із шляхты Аўруцкай, на мяжы Палесься й Валыні. Іх ня прызнавалі на Ўкраіне за чыстых Украінцаў; пра гэтмана гаварылі запарожцы, што нельга яму кіраваць Украінай ды казацкім войскам, бо ён «литвин»[1]), знача Беларус. Вось-жа не за Ўкраінца, але за Беларуса ўважалі Ўкраінцы Выгоўскага. І няма дзіва, Аўруч і цяперака, просьле каля 400 год украінізацыі, ляжыць на этнаграфічнай тэрыторыі беларускай[2]), дарма што ладне зукраінізаваінай. Ня толькі жонка гэтмана Выгоўскага была Крывічанкаю, але й «ягоны брат Даніла ў 1658 г. адыграў ладную ролю ў падзеях на Беларусі; пра гэта шмат могуць расказаць архіўныя матар'ялы маскоўскага «Древнехранилища», якія прыходзілася бачыць аўтару гэтых радкоў (Акіншэвічу — Б. С.). Даніла Выгоўскі памёр, калі яго ў ланцугох везьлі да Масквы. Прынята думаць, што яго закатавалі... У Маскву, а потым у Сібір, на раку Лену, заслалі і іншых Выгоўскіх — Васіля (дзядзьку гэтмана), Юрку (браценьніка), Ільлю (братаніча)»[3]).

Выгоўскі, стаўшыся гэтманам, «у сваёй палітычнай дзейнасьці асабліва хоча абаперціся й на крывіцкую арганізацыю» (46 бал.). «У вайне Ўкраіны з Маскоўшчынаю крывіцкае казацтва Івана Нечая ўзяло ўдзел» (бал. 46). Дык нат бяз дальшых дасьледаваньняў, адно апіраючыся на даных, падаваных самым Акіншэвічам, можна дапусьціць, што Гадзяцкая ўмова была справаю беларускай.

З усяго менаванага ясна відаць, што Беларусы акупаванае часьці Беларусі, у тым ліку акупацыі ўкраінскае, заставаліся верныя свайму незалежнаму гаспадарству — Вялікаму Княству Літоўскаму.[4])

Украінцы ня былі псыхічна прыгатаваўшыся да такое ўмовы, якая сталася ў Гадзячу, дзякуючы Беларусам. Спачатку гэтман Выгоўскі меў удачу, і Ўкраінцы чыста разьбілі галоўнае маскоўскае войска пад Канатопам, але пасьлей Маскве ўдалося выкарыстаць сваю агентуру сярод цёмнай казацкай масы, Выгоўскі быў ськівены з гэтманства, і Ўкраіна зьвярнулася да васальнае залежнасьці ад Масквы.

Дарма што Гадзяцкай умоваю Польшча траціла Ўкраіну, у дальшым выглядзе гэтая ўмова была карысная й Польшчы. Каб Беларусь і Ўкраіна засталіся незалежнымі гаспадарствамі, дык з часам не дайшло-б да падзелу Польшчы. Але й Палякі ня былі прыгатаваўшыся да Гадзяцкае ўмовы; дзеля таго яны, просьле няўдачы Выгоўскага, гэтае ўмовы не паддзержылі і нат самога Выгоўскага забілі.

Але Беларусь з польскай помачай і далей адзержывала перамогі над маскоўскім і ўзноў над украінскім войскам. Адна часьць беларускага войска была ўжо ў Севершчыне пад Сосьніцаю, а другой на чале з Палубінскім заставалася паўтара дзесятка міляў да Масквы. Але ў гэтым мамэньце ў Польшчы выбухнуў бунт магната Любамірскага, кароль Ян Казімер пакінуў Беларусаў адных ваяваць з Маскалямі, а сам з польскім войскам зьвярнуўся да Польшчы. Хатняя вайна ў Польшчы цягнулася да канца ліпня 1660 г. Беларусы ў гэтым часе ня толькі ваявалі з Масквою й Украінаю бяз польскае памогі, але яшчэ мусілі пасылаць часьць свайго войска да Польшчы на помач каралю. Па сканчэньню нутраное вайны ў Польшчы, пачалася ў Рэчыпаспалітай вайна з Турэччынаю за Ўкраіну ды із самой Украінаю П. Дарашэнкі. Гэта былі прычыны, чаму Беларусь, дарма што мела шмат бліскучых перамогаў над Масквою, ня толькі не адабрала ад яе дальшых беларускіх земляў, у каторых былі ўзрушэньні жыхарства, але яшчэ замірэньнем у Андрусаве 1667 г. мусіла ўступіць Маскве Смаленшчыну ў Севершчыну. Севершчына, з выняткам Браншчыны й Трубчэўшчыны, была прылучаная ня беспасярэдна да Масквы, але да ўкраінскае гэтманшчыны. З гэтае прычыны ў Севершчыне мусіла паўстаць казацтва, як сталая зьява.

---

1) Акты Южной и Западной России, т. VII, бал. 192.

2) Гл. Я. Станкевіч, «Веда» 1952, бал. 166-167, 172, 173, 174, 175 і 263-264. Гл. таксама ягоную карту Беларусі.

3) Л. Акіншэвіч, там-жа.

4) Калі ў сьнежню 1659 г. маскоўскае войска здабыло ў Ів. Нечая Быхаў, ён лучыў у маскоўскую няволю і быў высланы ў ібір, Тамака, у Табольску, ён яшчэ ў 163 г., але ў 1669 г. яго бачаць ужо на Ўкраіне, дзе, як палкоўнік «літоўскага казацкага палку», ён вядзець перамовы з гэтманам П. Дарашэнкам (Л. Акіншэвіч, там-жа, бал. 179). Гэткім парадкам, ня толькі Ўкраінцам не ўдалося арганізаваць зь Беларусаў украінскіх каракоў, але й прысланы ў Беларусь Украінец Нячай стаўся беларускім дзеячом і беларускім палкоўнікам.

**Брачыслаў Скарыніч**

# Балючая патрэба

(Заканчэньне з 3-яй балоны)

гентыну. На раду кс. др. П. Татарыновіча Управа ЗБА зьвярнулася да а. Альфонсо Подзяво, які пражывае ў правінцыі Мэндоза, займаючы становішча прафэсара ў школе «Дон Боско», з просьбаю, каб згадзіўся пераехаць у Буэнос Айрэс і заняўся арганізацыяй беларускай каталіцкай парахвіі. Ён з пачатку на гэта згадзіўся з тым толькі, каб ягоныя духоўныя ўлады далі яму на гэта дазвол. Адначасна ён парадзіў зьвярнуцца да Інспэктара Гэнэрала Дон Люіс Вауля ў Кардове з просьбай у гэтай справе, што Ўправа ЗБА і зрабіла. Аднак а. А. Падзяво ў сваім лісьце із сьнежаня 1952 г. адмовіўся пераехаць у Буэнос Айрэс.

Не зражаючыся гэтай няўдачай, Управа ЗБА пачала афіцыяльна прасіць беларускія дзейнікі помачы ў прысланьні сьвятара ў Аргентыну, а апошні раз у жнівені сёлета зьвярнулася да Я. Э. Апостальскага Візытатара для Беларусаў біскупа Б. Слосканса з просьбаю помачы ў гэтай справе. Дагэтуль адказу няма, аднак Управа ЗБА яшчэ ня траціць надзеі, што справа будзе палагоджана пазытыўна.

Не сакрэт, што ў Аргентыне для сьвятара будуць даволі цяжкія ўмовы працы. Арганізацыя сама не магла-б пакрыць усіх коштаў ягонага ўтрыманьня. Але ёсьць тут ня мала ўкраінскіх і польскіх сьвятароў, якія памагаюць сваім суродзічам у нацыянальнай працы і ня дрэнна жывуць, служачы ў мясцовых касьцёлах.

Парушаючы справу рэлігійнага жыцьця Беларусаў у Аргентыне, трэба ўспомніць аб адным важным факце. У штодзеньніку, які выдаецца тут у ангельскай мове п. н. «Буэнос Айрэс Гэральд» за 28 ліпеня 1953 паявілася зацемка наступнага зьместу:

**«Япіскап для выгнанцаў — Рым.**

Ватыканская Кангрэгацыя Ўсходняе Царквы ўпаўнамочыла Расейскага Каталіцкага Япіскапа на выгнаньні апякавацца 60.000 Белымі Расейцамі каталікамі, расьцярушанымі па ўсім сьвеце, — як даведваемся зь некаторых каталіцкіх жаролаў.

Ім ёсьць мгр. Балеслаў Слосканс, Апостальскі Адміністратар Менску й Магілева, Заходняя Расея. Мгр. Слосканс, які ёсьць тытулярным япіскапам Цільлюм і асыстэнтам Папскага Пасаду, пражывае ў Лювэне, Бэльгія. Нарадзіўся ён у 1893 г. ў Стэрняны ў Латвіі. Ройтэр».

Прадстаўнік ураду БНР у Аргентыне зараз-жа выслаў рэдакцыі выясьненьне з просьбай спраставаць зробленую памылку, аднак рэдакцыя гэтага не зрабіла. Так і асталося, што расейскі, а ня беларускі япіскап будзе апякавацца ня Беларусамі, але «Белымі Расейцамі».

**К. Мацкевіч**

## АД РЭДАКЦЫІ

**Наступны нумар «Бацькаўшчыны» выйдзе падвойным зь літаратурным дадаткам за 31 студзеня 1954 г.**

**Р. СКЛЮТ**

# Дасказаньне

**зьместу нявыдрукаваных частак «Нядолі Заблоцкіх»**

**(НА АСНОВЕ ЎСПАМІНАЎ ПЕРАКАЗУ ГЭТАГА ЗЬМЕСТУ САМЫМ АЎТАРАМ У ЛІСЬЦЕ ДА СЯБРЫ НА ВЫГНАНЬНІ)**

«Дабрыдзень свайму, роднаму» аддаўшы, раскашаваўся Савоста перажываньнямі звароту блуднага сына да гэтага свайго, роднага. Дзён колькі нат і з хаты роднае носу выткнуць не хацелася Заблоччыку. А тады вынадзіла-ткі да сябе «летняя ночка» — ізноў з тэй-жа такі Альжаю, сваёй, роднаю дзяўчынаю, падзабытаю на чужыне, ды цяпер ацэненую ўдвая ў тэй сталасьці пачуцьцяў, што ўкладалася ўжо ў Савосту па гадох і перажытым у іх.

Паміж таго нарваўся нек Заблоцкі і на калішняга свайго настаўніка Зубрыцкага. Падалося, што й гэты быў нек як-бы зачадзеўшы, падобна, як Савоста ад «летняй ночкі», Альшы ды ўсяго свайго, роднага. Ды гэтак яно блізка што й было: знайшоў тымчасам і Зубрыцкі сваю дарогу да таго-ж свайго, роднага, а можа й тую, аддаўна лятучоную дарогу ў першы разьдзел раману свайго жыцьця. Не адразу цяміў Савоста, сваім зачадзелы, што сталася, аж нарэшце дайшло: па доўгагоднай сяброўцы свае адзіноты — тэй «Ниве» з дармовымі дадаткамі — нарэчыўся нек Зубрыцкі на іншую — на «Нашу Ніву», хоць і без дадаткаў, ды запраўды «нашую», сваю, родную, у сваёй, роднай мове газэтку. Гвалтам убіваў цяпер яе й Савосту ў рукі — няхай пачытае адно, гэта-ж зусім, зусім іноcя, гэта-ж... Памятаваў Заблоччык, як калісь адвярнула яго ад тае старое «Нивы» з дадаткамі і якраз зь «летняй ночкай» упяршыню спаткаўся тады... Дык і цяпер безь вялікае ахвоты клаў за ўлоньне гэтае новае Зубрыцкага захапленьне, усё яшчэ не разумеючы добра, што гэта за яно. Ды калі, дамоў ідучы, спыніўся пасядзець у халадку й дастаў газэціну, пачаў чытаць — ня мог ужо адарвацца, пакуль аж да «друкарні Марціна Кухты» (друкарня, у якой друкавалася «Наша Ніва») не дайшоў. Вось дзе запраўды было яно, сваё, роднае, зусім неспадзяванае, а над усё грунт. Беларусь!

І як ні бягучы, вярнуўся Савоста да настаўніка, згроб у яго ўсё, што было — і газэткі, і маленькія кніжачкі — куды да тых «дармовых дадаткаў», але — свае, родныя! Тымчасам Зубрыцкі выкладаў быламу вучню сваё запаветнае — пра той «першы разьдзел»... То-ж «Беларусы нікога ня маюць, няхай-жа хоць будзе ў іх Янка Купала»... Ну, Янка Купала — дзеля вершаў, а вось гэроем у «першы разьдзел» — хто? Якраз месца гуляшчае, вольная дарога. Дык можа — яны ўдвух, на сваю, родную дарогу, адчыняць першы разьдзел і свае кнігі жыцьця, дый упішуцца ўрэшце ў вялікую кнігу дзеяў свайго, калісь слаўнага, зьнябытага цяпер народу? Гэтак і пачаўся першы этап, ці можа, якраз і самы старт таго «дыялёгу», якім пайшлі ад цяпер ужо, як спрэжаныя, настаўнік і вучань, Зубрыцкі й Заблоцкіх Савоста.

Дык зараскашаваўся цяпер Савоста новымі, вялікімі перажываньнямі нацыянальнага ўсьведамленьня. Завяршала гэта тую раскошу пачуцьцяў звароту да свайго, роднага, да «летняй ночкі» і «вясны-красны». Як Зубрыцкаму той «першы разьдзел», так яму зарысоўвалася тут лятучонае калісь павіна «пяро залацістае»... Ды зразумеў Заблоччык — ня ўсё тое адразу, пачынаць трэба ад маленькага, так і ў газэтцы піша. Для Зубрыцкага гэтае маленькае — ягоная школа, для Савосты — ад дзядоў-прадзедаў спадкаемная доля аратага. І калішні вучань, узбагачаны навукаю і практыкаю тае другое свае школы, што адбыў кагадзе за кратамі, вучыў ужо настаўніка: ня можна так адразу, як той хоча — «букварь» пад стол, «лемантар» на стол, і пайшло. Гэтак прапсюраць раз-два, і настаўнік гатоў яшчэ сам гэнам апыніцца, дзе Савоста быў. Родную школу рабіць трэба асобна, і ўпотайкі, і памаленьку. Прыслухаўся да вучневых радаў настаўнік, і — дзіва: неўзабаве і няўзнак — ужо ў тых старых «лапах» вучням патрэбы ня было, перш у сваёй роднай, патайной школе, а тады навет і ў тэй казённай. Іноcя зусім і тут і там навука пайшла, не зашываўся больш розум у небарачных баркаўскіх дзяцей. І настаўнік захапіўся новаю сваёй працаю па вушы, як-бы гэта й быў ужо той ягоны жаданы «першы разьдзел», дый ці-ж ня быў-ткі, напраўдзе?

Савоста-ж у бацькаву гаспадарку, у тую «долю аратага» — ды на вялікую радасьць маці свае Прузыны — унурыўшыся, пачаў пакрысе нагаворваць і сваіх, і іншых баркаўчанаў — і пра штучныя ўгнаеньні, і навет пра тыя хутары, што пра іх «Наша Ніва», як у бубен біла. Ды старыя баркаўчане — ня іхныя дзеці, і туга йшлося тут Савосту, ня гэтак, як настаўніку ягонаму. Чухалі старыя патыліцы — «а мо яно й так... ды ўжо-ж... каб-жа Бог даў» — ды на большае, чым тыя «штучныя», ці лубін які — не падважыць іх... І тое яшчэ, што адседзеў-жа Заблоччык недзе там за невашта — дык хто яго ведае, як і з тым, што ён кажа... Адзін брат Савостаў Пархім пераняўся быў думкаю пра «хаўрусную краму», ці «сялянскі банчок», пачуўшы пра іх з «Нашае Нівы» — дарога ягоная ў гандаль ужо добра назначыўшыся была. Дый ягонае сэрца не ляжала вельмі да хаўрусаў — сам сабе асэсарам валей хацеў быць Заблоччык гандлёўшчык.

Ды не папушчаў носу Савоста — ня ўсё адразу. Жыў ён цяпер — ад газэты да газэты, кажная газэцінка — цэлае здарэньне, хоць іншых, запраўдных здарэньняў, што пра іх лятуцелася змалку, здарэньняў-падзеяў так-такі й не находзіла. Ня ўсё адразу!

Ажно нарэшце пайшло сыпаць і здарэньнямі, як з рукава. Праўда, ізноў ня тымі, але-ж ткі здарэньнямі, аж занадта здарэньнямі, на іх ліха. Пяруном зь яснага, летняга неба грукнула — вайна. Зь Немцам. Самога Савосту, праўда, гэта не абыйшло: «белы бялет» меў у кішані Заблоччык — ці то за тую прыгоду сваю адседжаную, ці так нек. Ня турбавалі й Зубрыцкага: сельскі настаўнік. Заблоцкіх Пархім, што ў гандлі ды ў капейцы ўжо паварочваўся, падаткнуў, дзе трэба, дык не чапалі й яго. І зноў за ўсіх Заблоцкіх давялося йсьці небарачнаму Вінцэнтаму — музыку, як калісь на Японца — цяпер на Немца. Як калісь замалады быў, так і цяпер, хоць мо й за старога, адразу-ж выправілі. Ды іноcя пайшло ўсё цяпер: калі тады не даехаў Вінцэнты да Японца, цяпер у Немца адразачку-ж уехаў у самы гарт, так што й звароту ўжо ніякага. І неўзабаве прынёс Разэлі паштар пра «сьмерць гэроя на полі брані». — «Так, пад гарою, на полі, зрана беднага, і ўлажылі», — пераказвала ўдава суседзям, выціраючы хвартухом ня вельмі, каб мокрыя, вочы. А неўзабаве й зусім асушэлі яны — ня было калі. Пайшлі па нашых сёлах маскалёў ставіць, а як у Разэлі ў хаце вальней, дык ёй і па два-тры ўсырычвалі, балазе, і сама не ад таго была — усё-ж мужчыны ў хаце, тое-сёе,а беднай удаве й памогуць. І памагалі. За год ужо Юлікусэмасейку (ад таго шляхціца некалі) сястрычка такога-ж насеньня няньчыць прыбыла. А там і пайшло — што гадок, то й ядок, як кажуць. Так па Вінцэнтавай сьмерці гэройскай буяць пайшла сям'я ў ягонай старой хаце...

Яшчэ пакуль «Наша Ніва» йшла, хоць часам і вельмі-ж цэнзураю беленая — было ўсё як-бы тое самае і Савосту і Зубрыцкаму. А лятункі пра «першы разьдзел», ці «пяро залацістае» — разгараліся нат яшчэ больш, паддзьмухвала ў іх і«Наша Ніва» нявыбеленымі часам празь недагляд радкамі, ато й між радкоў. Можа ўжо й нядоўга? Смутна пайшло, як зарвала з газэтай зусім... Толькі хіба «летняя ночка» разганяла Савостаў смутак старым звычаем. Калі-ж — і хто яго ведае, як гэта й з чаго гэта — дагледзеў «пан» Змышлевіч, што ў дачушкі ягонай добра значэць пачынае, дык як ні праціўны быў за мужыка Альжу пушчаць — сам яшчэ барзьдзіць із шлюбам пайшоў. І на самай довесьні адгулялі Савостава з Альжай вясельле. Неўзабаве й раськідалася Альжа, ды няжывым, і ня мог даравацць Змышлевіч сабе, што гэтак зьвязацца з мужыком пасьпяшаўся: можна-ж было-б як шыта-крыта перачакаць, ды — каб-жа ведаў... І на зяця йшчэ больш вока ня меў.

Жанімства й няшчасьце зь першанцом адцягалі Савосту ад увагі да іншых здарэньняў. А зь імі націскалі — з аднаго боку — Немец, ужо добра чуваць было, гарматамі вухаў, а з другога боку як вухнула — дык і па ўсім цару, дык і рэ-ва-лю-цыя — вучыліся баркаўчане сьлібізаваць новае слова, налеваруч — на «леваруцыю» яго круцячы. Але-ж, пачыналася, хіба, тая ўжо «вясна-красна»... Акрыялі духам адразу і Зубрыцкі і Савоста: можна было цяпер і дыялёгам, і маналёгамі — сьмела, уголас, нікога не баючыся й не хаваючыся. Калі ня было на гэта шмат часу і гаспадару і сямейнаму, хоць і ня дзетнаму йшчэ, Савосту, дык дзяцюк Зубрыцкі закруціўся зусім. Спраўляўся і да Менску на сваіх на дваіх дапінаць, бо з коньмі цяпер тугавата было — і забіралі, дый і хаваць пачыналі. Прыносіў Савосту ўсё новыя весткі, і лісткі і газэткі — свае, родныя, як тая «Наша Ніва» была, была — ды не загінула: жыве нашая справа! Як-жа вычыталі сябры, што пад Немцам і без тае рэвалюцыі беларускія школы пайшлі ўжо ў жыцьцё, дык увосень Зубрыцкі, не хаваючыся ўжо, пачаў навуку ў баркаўской беларускай школе.

(Далей будзе)